Вільні (!) з ваколіцамі (!!) і меншаго цэнтру, які ўжо болей паддаецца маскоўскаму націску з усходу, Мінска (!!!)“ — „Усё, што тутака мы гаварылі аб каталіцкай Беларусі з Вільняй, — чытаем далей у стацьці, — адносіцца так сама і да гродзенскай губэрні, ў паўночна заходняй часьці этнографічна-польскай, у паўночна-усходняй — беларускай, у палудзеннай — украінскай“... „Нацыянальная фізыогномія гэтаго шматка Краю без сумлеваньня пераменіцца залежне ад новаго укладу палітычных варункоў яго быту. Асушка Палескіх балот, *узмацаваный колонізацыйный рух на слаба заселеных абшарах, пакінутых вялікай часьцю праваслаунаго насяленьня,* тварэньне новых абаронных ад усходу вартаўнічых пунктоў — *усе гэта паможэ вытварыць адменны ад цяперашняго характэр Краю*“.

Чаго не дасказаў каронны маршалак Польшчы, тое дагаварывае паменёная стацьця польскаго журнала. Яна нам ясна кажэ, што польская палітыка кіруецца *да захвату нашаго Краю, каб яго начыста апалячыць,* асабліваж тые яго землі, дзе жывуць *праваслаўные* беларусы і украінцы. Для іх ніякаго пардону Польшча не дала-бы, каб Беларусь запраўды папала ў польскіе рукі.

Дагэтуль польскіе палітыкі стараліся ўгаварыць нам, што яны хочуць аднаўленьня Уніі — дзержаўнай еднасьці „братніх народоў“: польскаго, літоўскаго, беларускаго. Цяпер ясна, што гэткімі гутаркамі яны хацелі дайсьці таго, каб „мясо само ў ляпу воўку ускочыло“, — а як гэта не ўдалося, яны кінулі свае хітрыкі і атkрылі свае карты, клічучы атkрыта да паняволеньня „братоў“— беларусоў, літвіноў, украінцоў. Яны ўжо пасьпелі аб’явіць „польскімі“ і Вільню — адвечную сталіцу Літвы і Беларусі — разам з ваколіцамі, і нават наскрозь праваслаўны беларускі Мінск! І гэта павінно для нас служыць за запаведзьтаго, што яны маняцца з намі зрабіць, калі-б ім удалося урваць кусок нашай зямлі.

Але гэтаго ня будзе! Ня будзе, бо ў гэты час, калі ўвесь сьвет апавешчае волю для „малых народоў“, ні адна з вялікіх дзержаў не маглабы аддаць нас на загубу ў польскую няволю. Ня будзе, бо народ наш, каторы ўсё ясьней і ясьней пачынае уяўляць сабе сваю самабытнасць, не паддасцца гвалтам чужынцоў; бо, нават паняволены, будзе прызываць увесь сьвет да зашчыты сваіх правоў на жыцьцё, на вольнае развіцьце, і голас яго не астанецца бяз отклiку!

*А. Н.*

## Восень.

Небо пахмурнело,
Лісьце пажаўцело,
Ўжо восень прыйшла.
Хмарка ўсё за хмаркай
Гоняцца гдзесь шпарка,
І гразь напаўала.
Дождажык усё льецца,
Вецер штось бярэцца
Ямчэй і ямчэй.
Жудасць наганяюць,
Зімкай нас пужаюць,
Як малых дзяцей.
Восень нам не страшна,
Гразь для нас пралазна:
Здалеем змагчы
Восень ды з даждажамі,
Зімку с халадамі
І ўсё пранясьці!

*В. Лемеш.*

## У Вільні і ваколіцах.

× **Чародны нумэр „Гомана“** с прычыны таго, што 15.II канчаецца год жыцьця газэты, выйдзе павялічэны (6 страніц).

× **Просьба аб вестці.** Ваеннапалонны Язэп Краскоўскі просіць нас звярнуцца да нашых чытачоў с просьбай даць ведамасьці аб яго жонцы Марыі і браце Вінцэнтым, якіе пражывалі ў вёсцы Войштовічы, Вішнеўскай воласьці.

Весткі, калі хто мае, просім падаць у Рэдакцію „Гомана“, Завальная 7.

× **Благая прывычка.** Нідаўна мы надрукавалі заметку аб тым, што некаторые местовые апекуны вядуць нейкую дзіўную палітыку у адношэньні да справы здачы ў арэнду кватэр у пакінутых дамох. Пры гэтым мы назвалі апекуна п. Маковскаго, каторы пару месяцоў таму назад друкаваў абвесткі ў польскай газэці „Dziennik Wileński“ аб вольных кватэрах, а калі Саюз Кватэрантоў папрасіў спіскі вольных кватэр дзеля безплатнаго пасрэдніцтва у здачы іх, п. Маковскі выдаць спіскі адмовіўся. І вось між апекунамі знайшоўся чэлавек, каторы, паводлуг прывычкі тутэйшых „паноў“ хавацца за сьпіну ўласьці (ўсё роўна, якой), на публічнае абвіненьне не даў публічнаго атказу, не апраўдаўся перад грамадзянствам, а пабег да прэдстаўнікоў нямецкай уласьці „жаліцца“, што яго „крыўдзяць“.

Будзем спадзевацца, што крок гэты той пан зрабіў на сваю руку і што таварышы яго с камісіі апекі над пакінутымі дамамі патрапяць паказаць яму належную дарогу.

× **У Саюзі Дамаўласьнікоў.** На агульным сходзі членоў саюза назначэна членская складка 3 рублі ў год.

У урад выбраны: Мірскі, Кац, Лукашэвіч.

× **Новые паперовые грошы.** Гэтымі днямі выйдуць гатовые ўжо новые нямецкіе бумажкі па 20 кап.

Як нас паведамляюць с пэўнай крыніцы, на новых выданьнях расейскіх паперовых рублёў па 25, 10 і 3 рублі будуць надпісы і ў беларускай мове. Гэта — новы крок да поўнаго зраўнаваньня правоў беларускай мовы с правамі іншых краёвых моў.

× **Маца для жыдоў.** Каб даць жыдом магчымасць атрымаць на іх пасху больш, чым ўназначэна, мукі, круп і т. д., адгэтуль і да вялікадня ім вылічаюць чверць дзеннай порціі на тыдзень.

× **У І-ай Работніцкай Страўні** палепшэная порсія абеду з мясам будзе каштаваць 65 фэн.

× **Скорая помач.** За тыдзень ад 30 студня да 5 лютаго скорая помач дадзена ў 76 прыпадках. Карэтка выежджала 46 разоў.

× **Курс рубля:** офіцыяльны — 2 м. 00 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 24 ф., пры куплі—2 м. 28 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

× **Убіўство дзіцяці.** У адходжае мейсцэ пры Жыдоўскай вуліцы 11 кінулі нованарадзўшагося хлопчыка. Труп дзіцяці выцягнулі пажарнікі. Аб матцы німа ніякіх ведамасьцей.

× **Прапала дзяўчына.** З дому № 15, кв. 10 пры Сьв.-Юрскім праспэкці прапала Эльза Браніслава Якэль, 20 гадоў.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| за дзень з 7 на 8 | —12° | —20,5° |
| „ з 8 на 9 | — 5,0° | —13° |
| „ з 9 на 10 | + 0,9° | — 4,3° |

## З усяго Краю.

**Насяленьне Беластоку.**

БЕЛАСТОК. Число жыхароў беластоцкаго местоваго округа даходзіць цяпер 63.000. Перад самай вайной іх было 120.000. Разам з расейцамі выехалі ня толькі чыноўнікі, але—с прычыны переносу ў Расею вялікіх складоў, фабрык і банкоў — так сама працаваўшые ў іх чыноўнікі і работнікі.

**Папаўся!**

ГЕДРОЙЦІ, Маляцк. пав. Селянін Язэп Бедульскі ў тым гаду служыў за агента ў жандароў і памагаў лавіць тайна таргаваўшых селян. Урэшці ён надумаўся сам выступаць за жандара.

# Немач і жыцьцё.

(Гл. пач. у № 11 «Гомана»).

Ой, якжэ мне трудненька, як балюча абхапіла чорная туга! Доктар даў лекарства.—„Устрыц, кажэ, аб’еўся“. Го, і ён хочэ паказацца разумнікам! Засьмеяўся-б я з яго, каб сьмех не даў ходу ад мяне... Трудненька мне ад шуму і болю галавы, ад ядавітых думак, што сплываюць чорнымі каплямі с пера на паперу і тыльгіцкаючы бягуць радамі у форме якіхсь дзіўных выкрутасоў, бягуць, мігацяць рад-за-радам, страніца за страніцай, том за... Ой, ратуйце!,. Кнігі! Кнігі! Лятуць, гіркаюць, вывіваючыся сярод хмар пылу, усё ка мне... з усіх бакоў. Яны душаць мяне, ўпіваюцца ў цела, высмактываюць жыцьцё, плывуць па жылах і аседаюць іржой на сэрцы. Гвалту! Я жыць хачу! Ратуначку!

Гэй, шум! Бурлі мацней, гатуйся, рві, крышы чэрап на кускі, выганяй думку — атруту маю!..

Ой, ратуйце-ж мяне! захавайце цело маё ад кніг; яны адабралі душу, Бога, людзей, будучыну, а цяпер прыйшлі с касой: ім цело патрэбно. Во, налегаюць на грудзі... Трэскаюцца, падаюцца грудзі, колець, рэжэ... шум, боль у галаве, вясёлкавые кругі ў вачах. А на дварэ тая самая зіма... Пыл, копаць... Лямпа гасьне... Не! не гасьне, а капціць, бо ўвалілася вялізарная муха, куды больша за тую драбязу. Пыльнае паветрэ сьмярдзіць чадам... Лопнуло шкло... Цёмна. Я хачу крыкнуць, але адубеў язык, скасьцянело горло. Я анямеў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З летаргу прабудзіўся я ў дамавіне і усьцешыўся, што праз якісь час бязсьледна згіну, што прабудзіўся не на зямлі. Але хутка ўцеха мая перэйшла у найбольшы, безгранічны жах: я пачуў бунт на могільцах.

— Я чырваней ад Нэрона, але з ім ня буду лежаць.

— Юда бляднеець прада мной, але я яго стыдаюся.

— Хоць я пранцаваты, але мая хвароба проціў яго, як капля перад морам.

— Сорам нам! Гэта найблуднейшае стварэньне. Вон яго выкінуць з усім, з зямлёй... хай нас не паскудзе. Вон яго! Жыва!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пракляцьце, пракляцьце! стагнаў я, бягучы па зямлі, куды вочы нясуць.

Пракляцьце зямлі, што пагарджае мной.

Пракляцьце сонцу, што неміласэрна колець праменьньямі цело маё.

Пракляцьце ўсім, усяму!

Пракляцьце мне, што жыву сярод усіх.

І качаўся я ў муках, поўзаў вужакай па пустой, бязплоднай зямлі і дрыжэў перад ценям сваім, і хоць нутро гарэло ад смагі, але піць ня сьмеў, бо пужаўся адбітка свайго ў вадзе... Я хацеў памерці, ой, як хацеў, і баяўся сьмерці, бо ўся земля у могільцах, бо ўсе мерцьвякі гідзіліся і грозілі мне.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ажно апынуўся я на пышнай мураве, на мяккай лугавой атаўцы; белые бярозкі прыязна тулілі мяне ў пухавы ценъ свой. З бельбалота выйшоў чэлавек увесь у белым і нёс поўны кошык белаго моху. А, падышоўшы да мяне, белы чэлавек пачаў гаварыць:

— Нашы прашчуры былі волаты, вялікалюды: Ламіжалезы, Адзінюкі, Развалігоры, а найстарэйшы іх бог—Бялун Былі у нас сусецзі: злыдні, зайздросьнікі. Эх, ужо і сусецзі! найгоршаму ворагу не жадаю... хай іх... бадай ім... Як прышлі яны к нам у госьці, дыкжэ-ж і далі работы—занятак зьвяром, груганом, чэрвяком, ой, далі!.. А гасьцілі яны ня коратка, не мала... Эх, хай іх, бадай ім!.. Пасьля іх радзілася пагаворка: „пусьці сьвіню за стол—яна на стол“. Яны ўкрылі нам грунт касцьмі, набілі сінякоўвалатовак, атруцілі паветрэ крыўдай. А мы?—пытаеш. Глянь, братка, абгані вокам, сколькі рэк, рэчак, вазёр, балот! Гэта ўсё ад сьлёз нашых, горкіх, неўсьцешных сьлёз. Мы плакалі шмат, доўга, плакалі сьлязмі Язэпа, прададзенаго братамі, і тапіліся, гінулі у сьлёзах сваіх, і прасілі помачы, ласкі. Ха-ха! прасілі помачы, ласкі ў таго, хто тапіў нас. Ня верыш? і я ня веру, але так кажуць яны... Во, чуеш, як гарланяць, ажно пахрыплі: яны кажуць, што мы згінулі, што сьвет ужо аб гэтым дачуўся, звыкся; яны нават магілу насыпалі, крыж уторкнулі; сьлязлівая бярозка вырасла, пырнік забуяў, запанавала цішына... сьмерць.. Але дай, браце, вуха... Сьляпцы яны! Астаўся народ, чуеш, народ астаўся, жывець, с шумам высыпаў на тую магілу, як мурашкі на мурашнік вясной, сваей рукой сам пішэць тоўшчэзарную кнігу з загалоўкам „Жыцьцё“ і моліцца, і жывець, і будуе сьветлую будучыну паводлуг гэтай кнігі сваей. Ну, але годзі! Замучыў я цябе, — ты штось мізэрна выглядаеш Хадзем у хату пад ценъ садочка. Мо’ агурочка з мёдам, або квасу?..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Эх, не баюся я цяпер сьмерці, але жыць хачу, ой, як хачу! бо зайздрую жывым, бо я аздаравеў, знайшоў Бога, вылечыў зямлю, сонцэ, ўвесь сьвет...

„Ах, ты, Юрачка, што ня жэнішся:
Прыйдзе зімачка, дзе падзенешся?..“

Жыві, беларус!..

1905 г. Л. Р.

КАНЕЦ.

